# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 47 (978) ГОД XIX 24 ЛІСТАПАДА 1974 г. ЦАНА 60 гр.




Сакратар ЦК ПАРП, і віцэ-маршалак Сейма А. Вэрблян дэкаруе Ордэнам Штандара Працы II класа сцяг гарадской рады Гайнаўкі.



Калона сцяганосцаў.

# ГАЙНАЎЦЫ - ШТАНДАР ПРАЦЫ!

Сёлетняя гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі была падвойным святам для жыхароў Гайнаўкі. У вялікай зале дома культуры „Гурнік" 7 лістапада сабраліся прадстаўнікі рабочай Гайнаўкі, заслужаныя дзеячы, прадстаўнікі савецкіх ветэранаў, каб святкаваць вялікі дзень горада — узнагароджанне яго Ордэнам Штандара Працы II класа. На ўрачыстасць прыбылі таксама прадстаўнікі ўлад на чале з сакратаром ЦК ПАРП, віцэ-маршалкам Сейма — Анджэем Вэрблянам і I сакратаром Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку — Здзіславам Куроўскім.

На ўрачыстасць прыбылі таксама былыя кіраўнікі палітычнага і адміністрацыйнага жыцця ў Гайнаўцы на чале з былым I сакратаром Гміннага камітэта ППР у Гайнаўцы — Чэславам Малесам і былым войтам Гайнаўскай гміны Міхалам Баравіком.

Такой высокай узнагароды Гайнаўка ўдастоена па прапанове Ваяводскага камітэта ПАРП пры поўнай падтрымцы Палітбюро ПАРП і I сакратара ЦК ПАРП Эдварда Герка. Віншуючы грамадзян Гайнаўкі ад імя Палітбюро ЦК ПАРП, Рады Дзяржавы і ўрада, А. Вэрблян адзначыў, што гэта высокая ўзнагарода з'яўляецца выразам вялікага прызнання цэнтральных улад за ўклад некалькіх пакаленняў жыхароў Гайнаўскай зямлі ў барацьбу за грамадскае і нацыянальнае вызваленне, а таксама ў дасягненні Польскай Народнай Рэспублікі. Гэтая ўзнагарода з'яўляецца таксама словам удзячнасці за самаахвярнасць і працавітасць для ўсіх жыхароў беластоцкага рэгіёну.

Многа месца ў сваім выступленні сакратар ЦК прысвяціў рэвалюцыйным традыцыям „чырвонай" Гайнаўкі, а асабліва рабочага класа, які чэрпаў натхненне да сваёй барацьбы ў ідэях Вялікага Кастрычніка. На Гайнаўскай зямлі гартавалася таксама польска-савецкая дружба, якая з'яўляецца фундаментам будаўніцтва новай, сацыялістычнай Польшчы.

Складаючы падзяку за высокую ўзнагароду, прадстаўнікі грамадскасці Гайнаўкі запэўнілі прадстаўнікоў цэнтральных і ваяводскіх улад, што высокая ўзнагарода вызваліць яшчэ большую грамадскую ініцыятыву для далейшага развіцця павету і краіны. VII з'езд ПАРП рабочы клас і ўся грамадскасць Гайнаўкі сустрэне дадатковай вытворчасцю, вартасць якой 30 мільёнаў зл., і грамадскімі чынамі — 10 мільёнаў зл.

А. К.
фота А. Карпюка

Новыя вершы

## АСЕННІ ЭЦЮД

*Скарыстала сурыку і охры*
*Усе запасы восень пакрысе.*
*Атрасла*
*і сушыць пэндзаль мокры,*
*Радуецца створанай красе.*
*Пазірае, гордая,*
*употай*
*На свае натхнёныя мазкі.*
*На мальберце*
*яркай пазалотай*
*Свецяцца дубровы і ляскі.*
*Мастакі,*
*што выйшлі на эцюды,*
*Ловяць пасмы белых павуцін,*
*Абнаўляюць копіі усюды*
*Непаўторных*
*восеньскіх карцін.*

**Уладзімір Скарынкін**

У СВЯТЛЕ ПАСТАНОЎ XV ПЛЕНУМА ЦК ПАРП

## КАБ КОЖНЫ ГЕКТАР...

З інжынерам Мар'янам Бізюком, намеснікам начальніка Сакольскага павету, згаварыліся мы аб пастановах нядаўняга XV пленума Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

— Так, вёска даўно ўжо чакала такой мэтанакіраванай і дальнабачнай пастановы, — гаворыць начальнік Бізюк.

Гэта зразумела, але мяне цікавяць справы болей канкрэтныя. Вось, для прыкладу, у дакладзе Эдварда Герка было сказана, што зямля з'яўляецца агульнаграмадскім дабром і таму кожны яе гектар, прыдатны для сельскагаспадарчага выкарыстання, павінен быць старанна загаспадараны, а сяляне, якія самі не змогуць гэтага зрабіць, мусяць уступіць месца болей зарадным.

— У Сакольскім павеце, — гаворыць таварыш Бізюк, — удаецца нам даволі паспяхова вырашаць гэтыя праблемы. Гаспадароў, у якіх няма каму перайманць гаспадарку, ёсць у нас шмат. Вось цяпер аж 360 сярод іх чакаюць афармлення пенсіі ўзамен за зямлю. Усе іх заявы да канца года будуць паспяхова аформлены. Нашы аграномы атрымалі загад, каб асаблівую ўвагу звярнуць на тых гаспадароў, якія нядбайна гаспадараць. Калі сцвердзім, што ніякім ужо спосабам не зможам узняць гэтых гаспадарак з эканамічнага заняпаду, каб давалі яны карысць і селяніну, і дзяржаве — тады, выкарыстоўваючы свае правамоцтвы, у адміністрацыйным парадку будзем гэтыя гаспадаркі перайманць у дзяржаўны фонд зямлі.

— Выбачайце, таварыш начальнік, — звяртаюся да Мар'яна Бізюка, — перанясць гаспадарку ў дзяржаўны фонд зямлі — гэта толькі пачатак справы. Што далей дзеецца з гэтай зямлёй?

— Вядома, стараемся, каб яна ў нас пустазеллем не зарастала. Вось у Крынках ужо распачаў дзейнасць ПГР, які да 1980 года загаспадарыць звыш 10 тыс. гектараў зямлі ў гмінах Крынкі, Бабікі і Шудзялава. Ужо цяпер у навакольных вёсках назіраецца цікавая з'ява. Многія маладыя і старыя сяляне сваю будучыню звязваюць з гэтай аграмаднай дзяржаўнай сельскай гаспадаркай, бо ведаюць яны, што ПГР будзе патрабаваць вельмі многа добра падрыхтаваных спецыялістаў, што ў Крынках і ў другіх філіялах крынкаўскага ПГР-у будуць будаваць жылыя дамы гарадскога тыпу...

Падобны ПГР узнікне ў Макаўлянах, які пяройме безгаспадарскую зямлю Сідраўскай гміны.

У Крынкаўскай гміне знаходзіцца вёска Гураны, а ў Гуранах ужо даўно актыўна дзейнічае сельскагаспадарчы гурток, які мае даволі багаты вопыт у калектыўнай апрацоўцы дзяржаўнай зямлі. Цяпер ён рашыў разводзіць авечак. У Гуранах пачалі будаваць аўчарню для 600 авечак. Вядома, авечка патрабуе корму, таму гуранскія гуртkоўцы надалей будуць апрацоўваць зямлю.

(Працяг на стар. 3)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Ваўкавыскія артысты ● Больш увагі да народнай песні ● На вуліцах Горнапраўдзінска ● У Беластоцкім тэатры ● Крытыка не памагае ● Вясковыя біяграфіі ● Літаратурная старонка ● Весткі з Белавежы, Каянкі, Вілюкоў, Гарадка, Нараўкі, Чыжоў, Тапаркоў, Чаромхі, Саколкі, Трывежы, Мокрага, Новага Вострава і інш. ● Песня з рэпертуару калектыву „2+1" „Na luzie".**



Дырэктар бібліятэкі мгр Янка Зенюк ля выстаўкі „Педагагічная думка ў сістэме нацыянальнай адукацыі".

## З ДАПАМОГАЙ НАСТАЎНІКАМ

Цяжка знайсці ў нашым ваяводстве настаўніка, які б павышаў свае кваліфікацыі і не скарыстаў з 58.713 пазіцый, што знаходзяцца ў кнігазборах **Педагагічнай ваяводскай бібліятэкі** ў Беластоку. Апрача кніг, у ёй сабрана 3.245 падручнікаў і 3.798 нумароў часопісаў. Бібліятэка штогод атрымоўвае 196 польскіх і замежных перыядычных выданняў. І кніжны фонд няспынна павялічваецца, бібліятэка набывае ў год кніг і часопісаў на 167 тысяч злотых.

— Сам характар нашай бібліятэкі акрэслівае профіль яе кнігазбору, — расказвае дырэктар бібліятэкі мгр **Янка Зенюк.** — Перш за ўсё мы камплектуем выданні па педагогіцы, псіхалогіі, методыцы навучання і выхавання і роднасных ім галінах, а таксама грамадска-палітычную літаратуру і навукова-папулярную па матэматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі і г.д. Па гуманістыцы ў нашых зборах знаходзяцца выданні класікаў польскай і сусветнай літаратуры, манаграфічныя працы.

(Працяг на стар. 4)

## ШТО НОВАГА?

### Санаторны Аўгустоў

Аўгустоў і яго ваколіцы з прыгожымі азёрамі і сасновымі лясамі славяцца як краіна турызму і адпачынку. У 1970 годзе было прызнана, што ёсць тут таксама ўмовы для курортнага лячэння. Згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя і грамадскай апекі, будуць тут лячыць рэўматычныя хваробы. Можна тут будзе карыстацца лячэбнымі гразямі (баравіна), якія адкрыты ў ваколіцы Блізна. Добры ўплыў на лячэнне будзе мець паветра Аўгустова, багатае эфірным маслам, якое выдзяляе сасна.

Курортныя аб'екты будуць знаходзіцца ў санаторным квартале, у 2 кіламетрах ад цэнтра горада. Выдзелены санаторны квартал займае каля 370 гектараў плошчы паміж дарогаю ў Сэйны, возерам Сайна і Быстрым каналам. Праект будовы выканалі архітэктары Варшаўскай палітэхнікі Андрэй Гаўлікоўскі і Славамір Гзель, якія былі лаўрэатамі конкурсу на будову санаторнага квартала, аб'яўленага беластоцкім аддзелам Польскага саюза архітэктараў.

Для правідловага вядзення работы, звязанай з падрыхтоўкай падрабязнай дакументацыі санаторнага квартала, у беластоцкім „Мястапраекце" створан калектыў спецыялістаў, у які ўваходзяць геадэзісты, геолагі, архітэктары, канструктары, электрыкі, праектанты санітарных абсталяванняў, дарожныя інжынеры, тэхнолагі і г.д.

Цяпер калектыў працуе над дакументацыяй першага этапа будаўніцтва санаторнага цэнтра. На першы план гэтага этапа ідзе ў будучым годзе санаторый беластоцкай фабрыкі „Біруна". У першым этапе будоўлі, які дасягае 1980 г., будуць пабудаваны санаторыі ЦРС „Самапомац хлопска", фабрыкі імя Сяржана ў Беластоку, Ваяводскай камэнды міліцыі і папяровага камбіната ў Влацлаўку. Апрача таго, у гэтым этапе будзе пабудавана прыродалячнічае аддзяленне, якое дасць магчымасць правесці 1500 лячэбных працэдур у дзень, павільён мінеральных вод, бюро бытавога абслугоўвання і паліклініка.

Пасля 1980 года, у другім этапе, будзе пабудавана пяць далейшых санаторыяў, санаторная бальніца на 200 месц, другі прыродалячнічы павільён і інш.

Дзесяць санаторных аб'ектаў зможа за адзін раз прыняць 2 тысячы курортнікаў. Санаторыі будуць будавацца за грошы паасобных заводаў, прадпрыемстваў і ўстаноў. Іх калектывы ў час водпуску (1.VI. — 15.IX.) будуць выкарыстоўваць санаторныя памяшканні на адпачынак, а арандуючае прадпрыемства „Уздровіска Польске" дасць ім магчымасць бясплатна карыстацца ў гэтым перыядзе лячэбнымі працэдурамі.

У астатнія месяцы (15.IX. — 31.V.) на патрэбы санаторнага лячэння ўладальнікаў будзе адведзена палова месц, а іншыя будуць перададзены на ўсекраёвае карыстанне. (ак)

## СІБІРСКІЯ БАЛАДЫ

# ПРАЎДА АБ ГОРНАПРАЎДЗІНСКУ

Дваццаць першае ліпеня, гадзіна $16^{05}$. Нашае судна прытулілася бакавінай да прыстані ў Горнапраўдзінску. На сцяне будынка прыстані транспарант з прывітаннямі для пісьменнікаў. Праз будынак прыстані выходзім на бераг. Высока-высока чакаюць нас горнапраўдзінцы. Трэба па стромым дашчатым памосце карабкацца ўверх. Тыя жанчыны, у якіх высокія абцасы, маюць клопаты. Сустракаюць нас мясцовыя дзеячы. Многа дзяцей з кветкамі. Шныраць яны паміж пісьменнікамі і суюць букеты.

Няма аўтобусаў. Горад тут блізка — рукой падаць, і няма сэнсу ехаць. З высокага берага відаць цудоўная панарама Іртыша. Рака тут б'е ў бераг, на якім знаходзіцца гарадок. Экскурсавод выясняе, што кожны год Іртыш забірае 5 метраў берагу. Часам здараюцца грозныя абвалы берагоў. Напрыклад, у мінулым годзе абарвалася адразу каля тысячы тон грунту. Ад гэтага паўстала на Іртышы такая магутная хваля, што панесла кацер і 200-тонную баржу, якія плылі пасярэдзіне ракі, да супрацьлеглага берага і выкінула іх далёка на сушу.

Ідзем па горадзе. Гарачыня. Калі даходзім да будынка Горнапраўдзінскай разведвальнай экспедыцыі, гляджу на тэрмометр. Трыццаць градусаў у цені. Значыць, на сонцы каля сарака.

Прымае нас у кабінеце начальнік экспедыцыі Уладзімір Токараў. Яму 38 гадоў. Закончыў Цюменскі універсітэт і ўжо 16 гадоў працуе. Падкрэслівае, што ўжо чацверты раз сустракаецца з савецкімі і замежнымі пісьменнікамі. Расказвае аб працы геолагаў.

Пачаткі былі вельмі цяжкія. Няраз экспедыцыі не хапала хлеба, не гаворачы аб зеляніне. Не дзейнічаў транспарт. У гэтых клопатах памагала геолагам „Праўда". У гонар газеты члены экспедыцыі рашылі назваць горад Горнапраўдзінскам.

**Інжынер Токараў гаворыць,** што экспедыцыя дзейнічае на тэрыторыі 100 000 квадратных кіламетраў. Ад галоўнай базы геолагі аддаляюцца на 100, 200, 300 кіламетраў. Ідуць у бок Ледавітага акіяна. Дагэтуль экспедыцыя знайшла 6 месцанараджэнняў нафты. З двух ужо здабываецца нафта. Чатыры наступныя ў працэсе падрыхтоўкі. Сярод гэтых знаходак ёсць Урынгапольскае поле нафты, якое належыць да найбольшых не толькі ў СССР, але і ва ўсім свеце.

Перад інжынерам на стале стаяць бунечкі з нафтай. У адным нафта чорная, у другім — ружовая, у трэцім — зусім амаль бясколерная. У адных рэдкая, вадзяная, у другіх густая.

Токараў выясняе, што нафта ў зямлі не аднолькавая. У адной многа бензіну, у другой многа масла. У некаторых залежах ёсць нафта настолькі высокапрацэнтная, што можна яе заліваць адразу ў бак машыны і ехаць. Але ёсць і такая, у якой усяго 5% бензіну. Затое многа ў ёй масла.

Інжынер выясняе тое, што для мяне было абсалютна няяснае. Гаворыць, што ў зямлі няма азёр нафты. Словы „возера" ці „мора" нафты геолагі ўжываюць умоўна. У глыбіні зямлі нафта знаходзіцца ў порыстых пародах. Камень, у якім яна закупорана, прыпамінае папулярны ў Польшчы пумэкс, якім сціраюць на нагах цвёрдую скуру. Колер гэтага каменя аднак не белы, а цёмны. У такіх жа каменных порах знаходзіцца і газ. Калі геолагі праверцяць дзірку да пароды, у якой ёсць газ або нафта, тады газ і нафта паднімаюцца ўверх. Паднімаюцца таму, што на глыбіні 1.500 або 2.000 метраў страшэнны ціск. Ціск гэты даходзіць да 4.000 атмасфер. Каб уявіць сабе, якая гэта страшэнная сіла, варта напомніць, што ціск у коле грузавіка ўсяго некалькі атмасфер. Значыць, зямля страшэнна ціснe на порыстыя пароды і дзякуючы гэтаму выціскае на паверхню газ і нафту. На глыбіні 2000 метраў высокая тэмпература. Даходзіць яна да 130 градусаў. Як вядома, вада кіпіць пры 100 градусах. Нафта, аднак, не кіпіць, бо страшэнна сціскае яе зямля. Пакуль дойдзе на паверхню, тэмпература яе абніжаецца да 40-50 градусаў.



Плашчадка расчышчаная пад будову.



Дарога ад прыстані ў Горнапраўдзінску.

— Не раз, — гаворыць Токараў, — здараюцца грозныя з'явы. Так, напрыклад, аднаго разу, калі геолагі прабурылі скважыну да газу, наступіў страшэнны выбух. Усю вышку — тысячы тон жалеза — адкінула на многа метраў у бок. Газ вырваў у зямлі кратэр шырынёю ў 500 метраў. У гэты кратэр улілася вада з ракі, якая плыла побач. Газ загарэўся полымем у 200 метраў вышыні. Нельга было падступіцца. Трэба было здалёк бурыць нахіленую скважыну. Цяжка было папасці ў тую скважыну, з якой ішоў газ. Аднак папалі. Скважыну закупорылі, полымя згасла. Але возера на месцы кратэра засталося назаўсёды.

А $17^{00}$ інжынер скончыў. Выходзячы, я зірнуў на табель заробкаў рабочых і экспедыцыі. Вось некаторыя даныя: шафёр — 400 рублёў, трактарыст — 440 рублёў, кухар — 225. Што там гаварыць, нядрэнна: але і ўмовы працы цяжкія.

Ідзем наведаць горад.

**Алесь Барскі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 24.XI** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Mat. 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp. radz. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.15 Antena. 10.35 Drogi zwycięstwa. 12.40 Dziennik. 13.00 Pr. dla wsi. 13.20 Pios. dla Ciebie. 14.10 Widowisko dla dzieci. 14.50 Nie tylko dla pań. 15.20 Bank Miast (I). 16.35 Los. Toto-Lot. 16.50 Lektury Pegaza. 17.05 Sport. 18.05 Bank Miast (II). 18.25 Tele-Echo. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dobranoc dla dor. 20.25 Puccini — film wł. cz. I. 21.25 Bank Miast (III). 22.00 Recital Cz. Niemena. 22.30 Sport.

**Poniedziałek 25.XI.** 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 15.55 Nurt — Nauki polit. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Warsz. perspektywy. 18.10 Ballady śpiewa St. Zach. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: A. Czechow „Trzy siostry". 22.20 Dziennik. 22.35 Muzyczny ekran. 23.20 Oferty.

**Wtorek 26.XI.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 8.50 Puccini — film wł. odc. I. 10.00 Arsen Lupin. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. M. Gorki „Na dnie". 12.00 (kl. VIII) Hist. Nauka i tech. w Polsce międzywojennej. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.10 Spacerkiem po kinach. 17.40 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Pr. publ. 19.00 Przyp. radz. 19.10 Wyst. Amb. MRL. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Arsen Lupin. 21.20 Sport. 21.30 Świat i Polska. 22.05 Oni i One. 22.45 Dziennik.

**Środa 27.XI.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Bot. 10.00 Dla szkół: (kl. V) Hist. Złoty wiek Aten. 10.30 Aktorzy filmu radz. „Hamlet" 12.50 Tech. Rol. Hist. 13.25 Upr. rośl. 15.55 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla mł. widzów. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Artur Becker — film NRD. 18.40 Kr. Warsz. i Maz. 19.00 Rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Aktorzy filmu radz. „Hamlet", — w roli tyt. I. Smoktunowski. 22.50 Dziennik. 23.05 Sport.

**Czwartek 28.XI.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Iskra — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.35 Muzyka Młodzieży Świata. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Rep. film. 18.55 Test — Planowanie. 19.10 Wyst. Amb. SFRJ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Kobra: J. Villard „Noc strachu". 21.35 Sport. 21.45 Listy i polityka. 22.15 Dziennik. 22.30 Spotkanie z Marią Farah (Kuba).

**Piątek 29.XI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 10.00 Marta — film fab. czech. 12.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Życie gosp. Czech. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Hod. zwierz. 15.55 Nurt — Filoz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.15 Pr. sport. 17.40 Spot. z Z. Broniarkiem. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Dlaczego lubimy słuchać muzyki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: E. Orzeszkowa „Justyna". 21.30 Panorama. 22.10 Sport. 22.20 Spot. z B. Zagórską. 22.50 Dziennik.

**Sobota 30.XI.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Hod. zwierz. 10.00 Ciepło Twoich rąk — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.20 Hod. zwierz. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Red. Szk. zapowiada. 15.20 Kr. Warsz. i Maz. 15.40 Inf. Wyd. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci. 16.30 Dzisiejsza Oceania — film dok. radz. 17.00 Andrzejki. 17.50 Światłoczuły notatnik. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Noc w operze — film fab. USA. 21.55 W dniu Imienin — Andrzeja. 22.25 Dziennik. 22.45 Sport. 23.00 Studio Super Nova.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 22.XI.** — 8.30 Spektakl. 17.00 Film fab. 18.10 Błękitny płomyk.

**Sobota 23.XI** — 12.00 Film dla dzieci. 13.44 Filmy anim. 15.00 Hokej. Skrzydła Rad — CSKA. 17.45 Piosenka-74. 18.20 Teatr miniatur. 19.30 Operetka.

**Niedziela 24.XI.** — 10.30 Dla dzieci. 13.30 Koncert. 14.15 Film anim. 15.30 Koncert muz. klas. 16.40 Klub film. 17.40 Film ser. 19.30 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Telegram — radz. 30.XI.—1.XII

**Czeremcha** Sekretarz rajkomu — radz. 26—27.XI Bułeczka — pol. 30.XI.—1.XII.

**Czyże** Cierpkie wino — radz. Gdzie jesteś Maksymie — radz. 27.XI.—1.XII

**Dubicze Cerkiewne** Za frontem — radz. Zosia — radz. 27.XI.—1.XII.

**Gródek** Telegram — radz. 30.XI.—1.XII.

**Kleszczele** Wspaniałe słowo wolność — radz. 26—27.XI Ewakuacja — radz. 28—29.XI. Ostatni lot — radz. 30.XI.—1.XII.

**Michałowo** Wykryć szpiega — radz. 26—27.XI. Siódma kula — radz. 28—29.XI. Orle piórko — radz. 30.XI.—1.XII.

**Mielnik** Nauczyciel śpiewu — radz. 27.XI.

**Milejczyce** Polonez Ogińskiego — radz. 26—27.XI. Pokój przychodzącemu na świat — radz. 28—29.XI. Droga przez cmentarz — radz. 30.XI.—1.XII.

**Narew** Był sobie dziad i baba — radz. Czterdzieści minut przed świtem — radz. 27.XI.—1.XII.

**Narewka** Październik — 10 dni, które wstrząsnęły światem — radz. Nikt nie chciał umierać — radz. 27.XI.—1.XII.

**Nurzec** Trudne godziny — radz. Ludzie i bestie — radz. cz. I i II 27.XI.—1.XII.

**Orla** Ostatni lot — radz. Poławiacze gąbek — radz. 27.XI.—1.XII.

**Rajsk** Trzy dni Wiktora Czernyszewa — radz. Zielone światło — radz. 27.XI—1.XII.

**Suchowola** Polonez Ogińskiego — radz. Szach królowej brylantów — radz. 27.XI—1.XII.



B.Z.Graf. zam. 3170 O-3

## Беларуская літаратура

Аляксандар Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXVII**

**Феміністычная тэматыка і лірыка кахання.** Разглянем творы, якія былі вынікам захаплення канкрэтнай дзяўчынай, а не пазіранняў, не спробы характарыстыкі кахання іншых.

Кім была тая дзяўчына, якая выклікала ў Багдановіча „пажар сэрца“? Бацька паэта і іншыя даследчыкі сцвярджаюць, што ў час знаходжання ў Яраслаўскай гімназіі Багдановіч закахаўся ў прыгожую сястру аднаго з сваіх сяброў Аню Кукіеву. Ёй, мабыць, прысвяціў цыкл сваіх найшчырэйшых і найпрыгажэйшых вершаў. Вось іх загалоўкі: „Ўчора шчасце толькі глянула нясмела“, „Вы так часта пазіралі ў люстру“, „Халодная, ясная ноч“, „Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія“, „Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна“, „Мая гаспадыня“, „Усё адна цяпер мне думка сэрца сушыць“, „Больш за ўсё на свеце жадаю я“, „Буду сніць і днямі і начамі“, „Мару..., „Ці ведаеце Вы, цёмнавокая пані“.

Вершы гэтыя былі напісаны, бадай, у 1912-1913 гадах, гэта значыць тады, калі каханне Багдановіча да Ані знаходзілася ў апагеі. У адных з іх дамінуе сваё ўласнае я, у іншых вобраз каханай дзяўчыны, яшчэ ў іншых праяўляюцца сумненні ў канечным выніку свайго пачуцця.

Першы верш названага цыкла „Учора шчасце толькі глянула нясмела“ ілюструе нараджэнне пачуцця:

„Усё жыццё цяпер, як завея,
Кнігу разгарнуў — а не магу чытаць.
Як зрабілася, што пакахаў цябе я, —
Хіба знаю я? Ды і нашто мне знаць?“

У гэтым творы праяўляецца як бы здзіўленне паэта адменным станам свaёй душы і адначасова прарываецца з яго радасць чалавека, які адкрыў у сабе новае, няведамае дагэтуль пачуццё. Другі верш „Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія“ — гэта зноў ілюстрацыя новага стану сваёй душы. Паэт у сне шэпча: „Аня... мая... нікаму не аддам“. Фраза гэтая гучыць крыху дэкларатыўна, але як жа аўтэнтычна і шчыра. У сваім парыве паэт даходзіць да экстаза, да самазнішчэння. Кідае сваё пачуццё, сваю душу пад ногі той, якую выбрала яго сэрца.

„Буду сніць і днямі і начамі.
І прыду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі,
Хочаш — мучай, хочаш — загубі“.

Так, гэта ужо нешта фаталістычнае, містычна-рэлігійнае, фантастычнае. Сіла кахання вялікая, а яе сінонім — бяссільнасць закаханага.

Характарызаваныя дагэтуль вершы — гэта форма ілюстрацыі стану свайго сэрца. Другая група — гэта творы, якія маюць характар пратэсту, накіраванага супраць тых, хто ўрываецца ў святыню закаханых. У даным выпадку Багдановіч кіруе сваё абурэнне супраць Анінай цёткі, якая сваімі пытаннямі крыўдзіць закаханага паэта. Як жа арыгінальна і далікатна ваюе паэт з чалавечай недалікатнасцю.

„Вашай цётцы, здаецца, вельмі
прыемна
Рабіць обыск у маім сэрцы“.

Трэба падкрэсліць, што фраза „рабіць обыск у сэрцы“ дасканалая ў сэнсе паэтычнага наватарства і жыццёвай трапнасці. Гэтая ж думка, тое самае імкненне да абароны незалежнасці, суверэнітэту кахання дасканала паказаны ў свабодным, безрыфменным, белым вершы. Вось гэты верш:

„Мая гаспадыня,
Тацяна Р-на!
У адным музеі я бачыў
Над японскаю вазаю надпіс:
„Просяць рукамі не датыкацца“.
Тое ж скажу і аб каханні,
Бо гэта — задушэўная справа,
А чалавецкай душы таксама
Няхораша мацаць рукамі.
Далікатныя людзі самі ведаюць гэта,
А недалікатным аб гэтым
напамінаюць“.

Для паэта яго каханне — гэта святыня, у якую ўваход забаронены для ўсіх, апрача яго самога і той, якую ён выбраў.

Так, Багдановіч глыбока шанаваў чалавечыя пачуцці і патрабаваў ад людзей пашаны да сваіх пачуццяў. Часта бывае так, што каханне перарастае сваёй духовай сілай фізічную моц чалавека. Мабыць, у Багдановіча было гэтаксама.

## Сучасная сучаснасць

Аб велічыні і аб сучаснасці плоцкага нафтакамбіната я ўжо пісаў. Для папаўнення сваіх думак дадам, што плоцкі нафтакамбінат дае 40 прац. агульнай прадукцыі польскай нафтахіміі.

Аб складанасці і велічыні тэхналагічных працэсаў сведчыць і тое, што на плоцкім нафтакамбінаце налічваецца 6,5 тысячы кіламетраў розных трубаправодаў, у якіх штосьці дзеецца, штосьці выходзіць патрэбнае кожнаму з нас, або непатрэбнае, якое трэба адвесці. У розных машынах круціцца безупынку 97 тысяч розных тыпаў шарыкападшыпнікаў. Трэба сучасных машын і спецыялістаў, каб даць заводу тэмпературу ад далёка мінусовых да плюс 2 тыс. градусаў.

Як я ўжо гаварыў, плоцкі нафтакамбінат раздзяляецца як бы на два аддзяленні: нафтаперагоначнае і нафтахімічнае. Асабліва развіваецца гэта апошняе. Тут усе ўстаноўкі і абсталяванне найбольш сучасныя. Возьмем хаця б устаноўку бутадзіёна — сыравіны для вытворчасці штучнага каўчуку. Пабудавана яна ў 1972 годзе за 2,5 мільярда злотых, а ліцэнзія была закуплена ў ЗША. Пакуль што такіх установак няма на ніводным нафтакамбінаце Еўропы.

Захапляе мяне тэма: як і хто кіруе такім камбінатам? Бо сказаць, што павінны гэта быць спецыялісты, розныя інжынеры ці магістры, гэта малавата.

Кіруе ўсімі нервамі камбіната галоўны дырэктар. Калі дырэктар Катоўскі прыйшоў у Плоцк, становішча на заводзе было цяжкое: апасаліся, што трэба будзе выключыць нафтаперавод. Цяжка сабе ўявіць, чым гэта пагражала нашай гаспадарцы. Інж. Катоўскі гаворыць: ведаў, што былі тут людзі разумныя і здольныя, але шукаць іх у той час было б самагубствам. Дык дырэктар Катоўскі перавёў сюды сваіх папярэдніх супрацоўнікаў з іншай мясцовасці. Нафтаперапрацоўка не была спынена. Сітуацыя была апанавана. Гэтыя заданні былі раздзелены паміж 140 інжынерамі і тэхнікамі. Кожны меў адно заданне, за якое адказваў, ведаючы, што калі яго выканае, яго зарплата павысіцца, а калі не — з пасады мусіць адыйсці. За год адыйшло іх 30. Дырэктар У. Катоўскі гаворыць гэта проста:

„У звычайных умовах, гэта значыць, калі б нічога асаблівага не дзеялася, доўга не мог бы я зарыентавацца ў людскіх магчымасцях. Калі трэба прыспешыць дзеянне — з месца відаць, хто кім ёсць“.

На плоцкім камбінаце чуюцца такія сцвярджэнні: заданні, якія перад намі ставіць сучаснасць, перарастаюць нас ужо сёння. Цяпер кожны кандыдат на кіраўнічую пасаду мусіць прайсці тэставыя доследы ў спецыялістаў. І калі нават часовая недыспазіцыя (у дзень доследаў) мае ўплыў на адмоўны вынік — з такога кандыдата рэзыгнуюць, каб потым не было сумненняў.

Своеасабліва ў Плоцку разумеюць сучаснасць. Па-іхняму сучаснасць — гэта адзінства ўзроўню тэхнікі і ўзроўню бытавых паслуг для рабочага калектыву. Прычым не справа тут толькі ў яслях, сталовай, раздзявальні, сваёй паліклініцы. Пра рабочага тут думаюць больш комплекснымі катэгорыямі. Трэба здаваць справу, што на нафтакамбінаце, генеральна беручы, фізічна людзі не працуюць, але затое з'яўляюцца пад вялізнай псіхічнай нагрузкай, і гэта найбольш іх „спальвае“. Адзін з кіраўнікоў, у прыватнай размове, зажартаваў, што калі прыходзіць дахаты пасля работы, дык яму цяжка згаварыцца з сям'ёй і толькі свабодны шпацыр вяртае яго на ўлонне сям'і. Пад гэта рыхтуюць усе бытавыя паслугі на нафтакамбінаце.

А. Карпюк

## Людзі добрай работы

**МІКАЛАЙ ХАРКЕВІЧ**



Перадавым гаспадаром у гміне Нараўка Гайнаўскага павету з'яўляецца Мікалай Харкевіч, сын Рыгора, з вёскі Ляшукі. Вядзе ён 11-гектаравую гаспадарку. Пабудаваў новую абору з аўтаматычнымі паілкамі і механізаванай дастаўкай кармоў. Атрымлівае ён высокія ўраджаі збожжавых культур: 27-28 цэнтнераў жыта „Данькоўскага“ і 30 цэнтнераў ячменю з гектара. Мікалай Харкевіч вядзе доследы з жытам, бульбай „Флорай“ і травой, кансультуючыся з сельскагаспадарчым доследным прадпрыемствам у Шэпетове. Вопытны гаспадар намераны заняцца гадоўляй малочных кароў. Цяпер гадуе іх 10 штук, у тым ліку дзве пароды „Нцб“. Мае ўдосталь кармоў, добрую сенажаць, уласную конную касілку, зграбалку, вентылятар для сушэння сена. З часам будзе „электрычны пастух“ і найлепшай якасці электрадаілка „Альфа-Ляваль“.

Мікалай Харкевіч пасеяў больш кармавых раслін, асабліва кармавых буракоў. Робіць кішонкі пад фоліяй. Корміць імі кароў зімою, і таму даюць яны ўвесь час тлустае малако. Кантрактуе ён восем тысяч літраў малака. Апрача таго, вопытны ляшуцкі гаспадар прадае дзяржаве ў сярэднім трыццаць штук свіней і адну тону ялавічыны ў год.

Мікалай Харкевіч умее зладзіць сваю працу на гаспадарцы з абавязкамі гміннага раднага (функцыю гэтую выконвае ён ужо чацвертую кадэнцыю) і іншай грамадскай дзейнасцю. У вольны час чытае ён „Ніву“, розныя сельскагаспадарчыя часопісы і кніжкі з уласнай хатняй бібліятэкі.

Варта адзначыць, што Мікалай Харкевіч за вялікія поспехі ў вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі і дыпломамі. Яго здымак знаходзіцца на ганаровай табліцы заслужаных гаспадароў у Нараўцы.

Мікалай Харкевіч мае медаль „За ўдзел у баях за Берлін“.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Пачатковая школа ў вёсцы Залукі Беластоцкага павету.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## Пачакальня са скразнякамі

Каля вёскі Ласінка Гайнаўскага павету ёсць аўтобусны прыпынак ПКС. Калі тут была пабудавана пачакальня, усе знаходзілі ў ёй прытулак у непагоду і холад. Цяпер у ласінскай пачакальні дах дзіравы, няўтульна, па спіне дрыжыкамі праходзяць халодныя скразнякі. Людзі сюды заходзяць і дзівяцца, чаму яе ніхто не рамантуе. Пачакальня ж на скрыжаванні дарог і на віду ўсіх. (ця)

(Працяг са стар. 1)

## З дапамогай настаўнікам

— А як з чытачамі?

— Нашу бібліятэку і яе чытальню наведваюць людзі з Беластока і ўсіх канцоў ваяводства. Вось некалькі з лікаў. У мінулым годзе ў нас было 2.589 чытачоў, у тым ліку 1.025 настаўнікаў. Мелі мы 11.806 наведванняў. Адны толькі настаўнікі пазычылі 9.416 кніг і часопісаў. У тым жа годзе ў нашай чытальні займалася ў суме 4.875 асоб, сярод іх 2.131 настаўнік. Колькасць чытачоў з году ў год павялічваецца, і ўжо ў пачатку кастрычніка г.г. у нас было 2.680 чытачоў.

— Ваша бібліятэка спаўняе важную ролю ў адносінах да павятовых педагагічных бібліятэк...

— Маем у нашым ваяводстве 18 павятовых педагагічных бібліятэк, у якіх знаходзіцца ў суме 188.075 выдавецкіх пазіцый. Гэтыя бібліятэкі падлягаюць нам у справах камплектавання кнігазбораў, бібліяграфічнай інфармацыі, пашырэння і арганізацыі чытальніцтва сярод настаўнікаў. Апрача гэтага, мы вядзём нагляд таксама за настаўніцкімі



*У цішы чытальнай залы.*

 

Нядаўна адбыўся фінал чытальніцкага турніра „Газеты Беластоцкай" і „Трыбуны Люду" пад лозунгам „Прэса і кніжка — крыніцай ведаў". У ім прыняло ўдзел шэсць найлепшых дружын з паасобных паветаў. Удзельнікі фінала (пераважна моладзь) былі добра асвядомлены аб найважнейшых падзеях у краіне і на свеце, пра якія пісалі спамянутыя газеты. Перамагла дру-

## КАЛЯРОВЫ ТЭЛЕВІЗАР У БОЦЬКАХ

жына з Боцькаў Бельскага павету ў складзе: Зоя Ярашэвіч, Анна Статкевіч і Міхась Сац. Узнагародай для іх быў каляровы тэлевізар. Цяпер наведвальнікі боцькаўскага клуба „Рух" могуць глядзець каляровыя тэлеперадачы.

Другое і трэцяе месцы заваявалі дружыны з клубаў „Руху" ў Крукоўшчыне Сакольскага павету і ў Саколім Беластоцкага павету. Яны былі ўзнагароджаны магнетафонамі.

Варта дадаць, што турнір „Прэса і кніжка — крыніцай ведаў" упершыню адбыўся ў мінулым годзе. Галоўную ўзнагароду — каляровы тэлевізар — заваявала дружына з Міхалова Беластоцкага павету. Там ён добра служыць усім наведвальнікам гміннага цэнтра культуры. (ця)

## Новыя клубы „РУХ"

На Беласточчыне існуе каля чатырохсот клубаў „Рух". Яны добра служаць развіццю культурнага жыцця на вёсцы. Прадпрыемства „Рух" адкрывае новыя клубы перш за ўсё ў тых мясцовасцях, дзе ёсць нядаўна пабудаваныя дамы культуры або найменш два пакойчыкі ў будынку. Гэта таму, каб былі яны больш прасторнымі і прыгожымі.

У Беластоцкім павеце ў гэтым годзе былі адкрыты новыя клубы „Рух" у Сабалеве, Лапухове і Пясках. Апрача таго, у новы сельскі дом культуры ў Дабжыневе Вялікім быў пераведзены клуб „Рух" з цеснаватага памяшкання.

На Сакольшчыне ў больш адпаведныя будынкі былі пераведзены клубы „Рух" у Крукоўшчыне, Чцянцы, Трафімаўцах і Янаўшчыне.

У Дуброўскім павеце новыя клубы атрымалі жыхары вёсак Кудраўкі і Стоцк.

На Гайнаўшчыне 1 лістапада гэтага года быў адкрыты новы клуб „Рух" (26 у павеце) у вёсцы Грабавец. Пасяліўся ён у будынку, пабудаваным грамадскім чынам. Кіраўніком клуба з'яўляецца Люба Кас'янюк. Гайнаўскае прадпрыемства „Рух" паклапацілася пра новы тэлевізар, радыёпрыёмнік з праігрывацелем, прэсу, настольныя ігры і іншае клубнае абсталяванне. Хаця на двары холадна і мокра, у клубе ўтульна, цёпла і чыста. (ця)



*За прылаўкам кіраўнік новай крамы ў Бандарах — Ніна Хлябіч.*

## У НОВАЙ КРАМЕ

У канцы ліпеня гэтага года жыхары вёскі Бандары Беластоцкага павету атрымалі прыгожы гандлёвы павільён з харчовымі, тэкстыльнымі таварамі і абуткам. Пры пабудове яго грамадскім чынам многа працавалі жыхары гэтай і суседніх вёсак.

У новай краме працуюць чатыры прадаўцы: Ніна Хлябіч — кіраўнік крамы з 17-гадовым стажам працы ў гандлі, Марыя Хлябіч, Таццяна Багнюк і Мікалай Хлябіч. Дбаюць яны пра багаты асартымент тавараў, таму і людзі задаволены. У краме паявіліся такія тавары, якіх дагэтуль у вёсцы не бывала. Апрача таго, заўсёды тут чысціня і парадак. Ветлівасць прадаўшчыкоў пакідае ў кожнага мілы ўспамін. У новую краму заходзіць многа пакупнікоў нават з суседняга Гайнаўскага павету: з Лукі, Церамкоў, Навін, Міхнаўкі, Ляшукоў, Кардону, а нават з Ляўкова і Ахрымаў.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

аддзеламі ў школьных бібліятэках. Трэба прызнаць, што чытальніцтва ў асяроддзі настаўнікаў нашага ваяводства стаіць на высокім узроўні, напрыклад, у Замброўскім павеце ўсе настаўнікі з'яўляюцца сталымі чытачамі мясцовай павятовай педагагічнай бібліятэкі, у Бельскім павеце — 84,4 прац. настаўнікаў, у Гайнаўскім — 80,2 прац. Сямяціцкім — 77,0 прац., Сакольскім — 81 прац. Зрэшты, кнігазборы ўвесь час павялічваюцца, у год павятовыя бібліятэкі ў нашым ваяводстве набываюць кніг і часопісаў на 625 тысяч злотых.

— З якой дапамогай прыходзіць ваша бібліятэка настаўнікам, якія займаюцца завочна ў вышэйшых навучальных установах?

— Маем дакладныя спіскі абавязковай і дадатковай літаратуры і падручнікаў настаўніцкіх напрамкаў вышэйшых школ краіны і паводле іх камплектуем нашыя кнігазборы. Ужо цяпер мы поўнасцю забяспечваем настаўнікаў-студэнтаў, якія вывучаюць педагогіку і роднасныя ёй навукі. З іншых напрамкаў таксама маем многа пазіцый, але ёсць там і значныя недахопы. Проста шэрагу выданняў няма ўжо ў продажы. Ад пачатку гэтага года мы пашырылі карэспандэнцыйнае пазычанне кніг. Даволі настаўніку ўкінуць у паштовую скрынку заказ, адрасаваны да нас ці павятовай педагагічнай бібліятэкі, і мы на ўласны кошт высылаем яму патрэбную кнігу. Удасканальваем таксама сваю інфармацыйна-бібліяграфічную працу. З новым годам уводзім экспрэснае інфармаванне ўсіх гмінных школ аб атрыманых кніжках па педагогіцы і методыцы. Вельмі пашырана пазычанне цераз нашую бібліятэку патрэбных пазіцый з іншых бібліятэк краіны. Вядзём таксама шырокую працу з чытачамі. У мінулым годзе наша бібліятэка была ўзнагароджана міністэрствам асветы і выхавання памятным медалем Камісіі нацыянальнай адукацыі за дасягненні ў арганізацыі павышэння кваліфікацый настаўнікаў і цікавыя формы папулярызацыі ідэй Камісіі нацыянальнай адукацыі.

— А што ў будучыні?

— У Беластоку на вуліцы Старабаярскай будзе пабудаваны Інстытут удасканальвання настаўнікаў і асветных даследаванняў. Пры ім будзе створан спецыяльны сектар для педагагічнай ваяводскай бібліятэкі з кнігасховішчам на 300 тысяч тамоў. У новым аб'екце будуць вельмі карысныя для чытачоў умовы: аддзел з магнетафоннымі запісамі, аддзел мікрафільмаў, магнетавіды і інш. Але ўжо і цяпер мы прыкладаем максімум намаганняў, каб забяспечыць нашых чытачоў усім неабходным для як найбольш плённага карыстання з кніг і часопісаў.

Размаўляў **Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, казала ж ты, моя матулю,*
*„Нэ позбуду я тэбэ!"*
*А тэпэр сіжу в кованум возі —*
*Подівісе на мэнэ.*
*А тэпэр сіжу в кованум возі —*
*Подівісе на мэнэ.*
*Ой, казала ж ты, моя матулю,*
*Што нэ будэш плакаті.*

*А тэпэр сідіш, слёзонькі роніш*
*По своёму дітяті.*
*А тэпэр сідіш, слёзонькі роніш*
*По своёму дітяті.*
*Кідай, маті, дрова —*
*Бувай, маті, здорова!*
*Бувай, маті, здорова!*

Ад Феадосіі Маліш, 1900 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія Гайнаўскага павету, запісаў 24 верасня 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

## Дасягненні гайнаўскіх пажарнікаў

Больш чым палавіна ўсіх пажараў узнікае на вёсцы. Агонь часта знішчае набытак не толькі гадоў, але і некалькіх пакаленняў. У час сушы вельмі падатлівым на агонь з'яўляецца Гайнаўскі павет, у якім 40 працэнтаў цэлай паверхні — гэта лясы. Апрача таго, дзе як дзе, але тут яшчэ шмат будынкаў, пакрытых саломай. На Гайнаўшчыне пажары робяць затраты ў сярэднім на суму некалькіх дзесятак мільёнаў злотых у год.

Між іншым, таму ў гэтым павеце будуецца штогод па некалькі стражацкіх рамізаў і павялічваецца колькасць добраахвотных пажарных каманд. Дзейнічаюць яны ў Белавежы, Дубінах, Чыжах, Новым Корніне, Дубічах Царкоўных, Кляшчэлях, Дашах, Палічнай, Карыцісках, Ласінцы, Арэшкаве, Нарве, Нараўцы і ў Трасцянцы. Новыя рамізы будуюць члены добраахвотных каманд (ОСП) у Старым Корніне і Махнатым. Грамадскім чынам пабудаваны супрацьпажарныя басейны ў Трасцянцы, Белай Стражы, Будах, Ягадніках, Дабрывадзе, Рэпісках, Навасадах.

Сёлета ў Гайнаўскім павеце пажарнікі выканалі грамадскіх чыноў амаль на 900 тысяч злотых. У рэалізацыі іх асабліва заслужыліся члены ОСП з Белавежы, Чыжоў, Дубіч Царкоўных, Старога Ляўкова, Махнатага, Новага Корніна і Навасадаў.

Варта адзначыць, што ў наступным годзе ОСП у Кляшчэлях будзе святкаваць залаты юбілей — 50-годдзе свайго існавання. (ця)

## У Курашаве найлепш

Найлепш арганізавана харчаванне ў зборнай школе ў Курашаве Гайнаўскага павету, у якой вучацца дзеці з шасці суседніх вёсак. Гэтая школа ўжо чацверты раз перамагла ў ваяводскім конкурсе пад лозунгам „Шклянка малака для кожнага вучня". Настаўнікі і бацькоўскі камітэт паклапаціліся пра харчаванне для ўсіх ахвотных на працягу цэлага навучальнага года. Вучні штодзень атрымліваюць малако, булачкі, салодкія сыркі і тварог проста з малочнага кааператыва ў Гайнаўцы.

У мінулым навучальным годзе вучні са школы ў Курашаве выпілі каля дзевяці тысяч літраў малака (на аднаго вучня выпала больш 46 літраў). (ця)



## Працавітасць

У вёсцы Берніκі, што на Сакольшчыне, як і ў многіх іншых вёсках, калі хто ўжо будуе дом, дык у асноўным мураваны. Мікалай Стэфановіч таксама пабудаваў мураванку. Ён не муляр, але сам мураваў пры дапамозе сваёй жонкі і дочак. Напрацаваліся не мала, але прыемна ў сябе зарабляць.

Мікалай Стэфановіч, як кажуць, мае залатыя рукі. Акрамя сталяркі, ён у хаце сам усё зрабіў. Сам пабудаваў кафляныя печы, сам укладаў падлогу, падбіваў падсуфітку, устаўляў дзверы і вокны.

Вырашыў ён цалкавіта пазбавіцца ад драўляных будынкаў. І сваімі рукамі пабудаваў з пустакоў прасторныя хлявы.

У гэтых хлявах 2 кані, 4 дойныя каровы, 6 свіней, 40 курэй, 12 гусей і 10 індыкоў. Як на 7 га зямельных угоддзяў, дык даволі дабытку і работы пры ім шмат.

Стэфановіч кожны год прадае шмат бульбы, збожжа і мяса. Кожны месяц за малако атрымоўвае больш як 2 тыс. зл. (мх)

фота **Я. Цялушэцкага**



 

## ПАСЛЯ КРЫТЫКІ

Падмарожвала. Восеньскі вечар ціха сыходзіў на стомлены дзённай працай горад. Свежасць дыхала ў твар, было лёгка, як пасля добрай парылкі. Але Ігнат Сямёнавіч Выпас, бухгалтар будаўнічага трэста, не адчуваў гэтага ледзь прыкметнага подыху вясны. Ступаючы па зацягнутых крышталікамі лёду лужынах, Выпас у памяці ўваскрашаў усё, што надоечы сказаў на прафсаюзным сходзе трэста.

„І як у мяне так атрымалася? — пытаўся ў сябе самога Ігнат Сямёнавіч. — Я і не думаў казаць пра той фонд... Але, калі дайшоў да прэмій і розных дапамог, не ўтрымаўся і выказаў начальніку ўсё. Вельмі ж ужо набалела", — апраўдваўся Выпас.

Ён паскорыў крок, каб пераключыць узбуджаную галаву на іншую тэму. Але, як ні стараўся, думкі вярталіся да ягонай крытыкі начальніка. Цяпер ён ужо не радаваўся свайму выступленню, а думаў, чаму гэта дырэктар не сказаў ні слова ў сваё апраўданне. „Мне пляскалі, а ён — як скамянелы. А заўтра, напэўна, на рабоце не тое будзе. Заўтра ён, мусіць, выкліча мяне і скажа:

— У вас акт паверхоўны або: вы вінаваты ў тым, што перавыдаткавалі планавыя сумы.

Вось будзе табе і крытыка. Так і зжыве з трэста".

Ад гэтай думкі Ігнат Сямёнавіч расхваляваўся яшчэ больш. Ён моўчкі зайшоў у сваю кватэру. І калі жонка прапанавала вячэру, сказаў, што паабедаў у сталоўцы. Ён доўга курыў, пасля браўся да чытання, то глядзець тэлевізар. Але яму не было лягчэй: страх за тое, што будзе заўтра, мучыў, як зубны боль.

Нарэшце, Выпас лёг спаць. Але заснуў Ігнат толькі на досвітку.

Спаў нядоўга. Калі ўсхапіўся, сонца яшчэ не ўзышло. Вуліцы, маўклівыя і бязлюдныя, былі засыпаны чыстым бялюткім снегам. Выпас пахадзіў па спальні, крыху размяўся і ціхенька, каб не разбудзіць жонку, пайшоў на кухню. Але жонка падняла галаву з падушкі і запытала:

— Ты што, дрэнна адчуваеш сябе?

— Адчуваю сябе надзвычай бадзёра, — з кіслай мінай адказаў Ігнат Сямёнавіч.

— Вельмі ўжо варочаўся часта.

На рабоце Выпас усёй сілай сваёй волі прымушаў сябе не прыкмячаць, што адбываецца ў бухгалтэрыі. Прыходзілі іншыя работнікі, віталіся, размаўлялі, жартавалі. Усё было так, як і раней. Ігнат Сямёнавіч глыбока ўсеўся ў крэсла, прыгнуўся і нават не заўважыў, як да яго падышоў начальнік і працягнуў руку:

— Добры дзень, Ігнат Сямёнавіч!

Ігнат Сямёнавіч усхапіўся, глытнуў паветра і выкрыкнуў:

— Добры, добры дзень, Леанід Барысавіч!

Ён доўга трос руку начальніка і глядзеў яму ў вочы даверліва і пакорна. Раптам начальнік перапыніў яго, паклаў руку на плячо, сказаў:

— Ведаю, ведаю, Ігнат Сямёнавіч, вы цяпер так заняты. Ну, працуйце, працуйце. Не буду перашкаджаць.

Ігнат Сямёнавіч, узрадаваны такой увагай, з лёгкасцю плюхнуўся на крэсла і ўхапіўся за акты.

Больш яго ўжо нішто не хвалявала...

**Мікола Дубоўскі**





— Зноў чамусьці цябе да тэлефона!

### У БІБЛІЯТЭЦЫ

— У гэтай кніжцы я знайшоў сто злотых. Ці не знойдзецца у вас іншых твораў гэтага ж аўтара?

### ПАДРЫХТАВАЛІСЯ

Прыйшлі маладыя ў гміну ўзяць шлюб. І там пытаюць:

— А вы добра падрыхтаваліся да такога важнага кроку?

— Ну вядома! — усклікнуў малады. — Маем трыццаць літраў гарэлкі, пяць скрынак віна, заказалі пяцьдзесят літраў піва. Ды гэта яшчэ не ўсё!..



### МУДРАЯ ПАРАДА

Сустрэла маці дачку, якую аддала замуж ў вялікую працавітую сям'ю.

— Ну як, дачка, жывецца замужам? — пытае.

— Ды нічога, мама, толькі заўсёды мокрым ручніком даводзіцца ўціраціца, як устану.

— А ты, дачуся, раненька ўставай, то і ручнік будзе суxенькі.



...Ён марыў аб замене службовай лесвіцы ліфтам.

...Ён жывіўся ілюзіямі і моцна пахудзеў.

## СКАРГА СУСЕДА

Пакараў жа мяне лёс
Доляй нешчаслівай:
Колькі год ужо жыву
З жонкаю сварлівай.

Што зраблю я для яе,
Ёй не да спадобы.
І баюся: давядзе
Гэтак да хваробы.

Добра плот загарадзіў —
Паглядзець аж люба,
Толькі ўсё ж не дагадзіў:
— Не такі ў Якуба!

Навазіў я з лесу дроў
Многа, як ніколі.
А яна крычыць ізноў.
— У Сымона болей.

Выпіў чарку, выпіў дзве —
Весялей мне стала.
Разззлавалася яна,
П'яніцай назвала.

Я зусім пакінуў піць
(Ці ж не малайчына?),
Дык зняважліва бурчыць:
— Што ты за мужчына?

**Цімох Карага**

### МІНІВЕРШЫ

### СТУДЭНТ ПАД ВЕТРАЗЕМ

Ён плавае
На ўсіх заліках
І на любым экзамене.
Вядома,
Гультаям вялікім
Вялікае плаванне.

**Пятро Сушко**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Яніны Нічыпарук, Марыі Герасімюк, Марыі Несцярук і Ніны Андросюк з Чэх Арлянскіх Гайнаўскага павету змяшчаем песню

## Staropolskim obyczajem

słowa: Janusz Odrowąż
muzyka: W. Kruszyński, A. Skorupka
śpiewają: Zofia i Zbigniew Framerowie

Staropolskim obyczajem
nim to miejsce pożegnamy,
jeszcze sobie, przyjaciele,
wszyscy razem zaśpiewamy,
na serdecznych uczuć znak
zaśpiewajmy tak:

Kochajmy się, kochajmy się,
kochajmy się,
gdy zechce ktoś rozdzielić nas,
nie dajmy się,
ci sami wciąż w radości dniach
i w doli złej,
kochajmy się, kochajmy się,
kochajmy się.

Przyjaciół mieć — to piękna rzecz,
trzymajmy się,
przyjaźni tej,
niech żaden fałsz nie mąci nam
umilknie pieśń, lecz słowa te
zostaną gdzieś na serca dnie,
kochajmy się, kochajmy się,
kochajmy się.

Staropolskim obyczajem
uściskajmy gospodarzy,
nie wiadomo kiedy znowu
spotkać nam się tutaj zdarzy,
lecz przyjaźni ciepły blask
nie zgaśnie w nas.
Kochajmy się, kochajmy się...



Без слоў.

### ВЕДАЕ

Семнаццацігадовы Янка ўвесь час выпрашае ў бацькі грошы на кішэнныя выдаткі.

— Слухай, сынок, — гаворыць бацька, — у жыцці ёсць рэчы важнейшыя, чым грошы...

— Ведаю, тата. Але калі я гэтыя важныя рэчы вяду танцаваць, гэта каштуе грошай...



— І ўчора вас не было на рабоце.
— Нічога падобнага, ўчора ж давалі зарплату...

### УДАКЛАДНЕННІ

Ідуць двое п'яных.

— Глядзі, — кажа адзін, — а месяц, аказваецца, трохвугольны.

— Не трохвугольны, а рамбічны, — адказвае другі.

— Не будзем спрачацца, — кажа першы. — Вось нейкі чалавек ідзе. Як ён скажа — так і будзе.

Спынілі яго, растлумачылі, у чым справа.

— А вы пра які месяц спрачаецеся, — спытаў, — вось пра той ці пра той другі?

### ПАСЛЯ ПАЛЯВАННЯ

Вярнуўся бацька з палявання, а пяцігадовы сынок пытае:

— Татку, ты сёння дзіка бачыў?

— Бачыў.

— А якія ў яго ногі?

— Ведаеш, Пятрук, я быў вельмі высока і бачыў толькі яго спіну.

### КАХАННЕ

— Дарагая, калі б я раптам збяднеў, ці працягвала б ты мяне кахаць?

— Вядома, але мне б цябе вельмі не хапала.

### У ЛЕКАРА

— Доктар, памажыце, калі ласка.

— А што з вамі?

— Не са мною, а з маёй жонкай. У яе назойлівая ідэя. Яна ўбіла сабе ў галаву, што я ідыёт, і я ніяк не магу яе пераканаць, што я нармальны.

### НЕ ХАЦЕЎ КРЫЎДЗІЦЬ

— Чаму ты не ўступіў жанчыне месца?

— Каб не пакрыўдзілася, што намякаю на яе ўзрост.





Здарэнне з кінааператарам.



### РАДЫКАЛЬНЫ СРОДАК

На што толькі не пойдзеш, каб не плаціць падаткі! Можна ашукаць падатковае ведамства, можна ўтойваць даходы... Англійскі фермер Віктар Крэйвен-Ходгсан знайшоў больш радыкальны сродак. Ён абвясціў сваю ферму ў паўночна-заходняй частцы Англіі „незалежнай дзяржавай", аб чым інфармаваў пісьмом прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі Гаральда Вільсана.

Абвясціўшы сябе „каралём" новай імперыі, Крэйвен-Ходгсан заявіў, што ён стаміўся ад бясконцых спрэчак з падатковым ведамствам і таму на межах сваіх уладанняў, якія займаюць каля ста гектараў, ён паставіў пагранічныя слупы, што аддзяляюць Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі ад „імперыі Грэйстоун і Хоуз", як ён яе ахрысціў.

Больш ніякіх падаткаў у англійскую казну! Наадварот, усе, хто жадае наведаць новую дзяржаву, павінны будуць заплаціць за ўезд.

Цяпер бравы фермер падумвае аб флагу для сваіх уладанняў. (Пісьмо з просьбай прыняць яго „імперыю" ў члены ААН ён, здаецца, ужо напісаў).

Невядома, які адказ ён атрымае з ААН, але мясцовы падатковы інспектар заявіў, што плаціць падаткі Крэйвену-Ходгсану давядзецца, нягледзячы ні на што...

### 50 АХОЎНІЦ ПАРАДКУ

У сталіцы Італіі створаны яшчэ адзін корпус дарожнай паліцыі. Цікава, што складаецца ён з 50 жанчын. А гэта — сапраўды рэвалюцыя ва ўяўленнях мужчынрымлян, якія хоць і адносяцца з абажаннем да асоб прыгожага полу, але ўсё ж лічаць за лепшае не даваць ім сур'ёзных спраў.



Усё прыходзіць з узростам. Асабліва старасць.